**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 19 (892) 11 траўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Дударскі рэй – 2017. Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў у Глыбокім, 6-7 траўня. Рэмі Дэкер (Remi Decker), вельмі папулярны ў Бельгіі выканаўца паказвае сваё майстэства на Алеі славутых землякоў у Глыбокім.** Працяг тэмы на стар. 5. *Фота Ул. Скрабатуна.*

Сейчас самое время!
ОкнаХом гарантия качества
8033 340-06-06
8029 340-06-06
до 30% скидки
ОКНА и ДВЕРИ ПВХ и металлические
Спешите!
Рассрочка без первоначального взноса до 12 месяцев!
Срок действия акции ограничен!
ПОЗВОНИ И УЗНАЙ ПОДРОБНОСТИ!
Только в этом месяце специальное предложение!
УНП 691403311

Компьютерный сервис «Фаворит»
- Продажа компьютеров, ноутбуков, офисной техники.
- Ремонт, настройка и модернизация компьютеров, ноутбуков, оптимизация, чистка.
- Установка любого программного обеспечения.
- Ремонт принтеров и многофункциональных устройств.
- Заправка, ремонт и восстановление картриджей.
- Удаление вирусов и баннеров, блокировка рекламы в интернете.
- Наличный и безналичный расчёт.
Низкие цены, скидки на комплексный ремонт +375 33 695-88-36 МТС
Бесплатный выезд и диагностика! +375 33 395-80-00 МТС
Ремонт в сжатые сроки и с гарантией +375 29 395-80-00 ВЕЛ
ИП Котлёнок А.А. УНП 391058112 г. Глубокое, ул. Московская 10, 2 этаж

УСМЕШКА
група ў аднакласніках ok.ru/group52352610599041
МАГАЗІН ДЗІЦЯЧАГА АДЗЕННЯ, АБУТКУ
АД 0+ - 12-13 ГАДОЎ (рост да 164 см)
ДЗІЦЯЧЫЯ ТАВАРЫ, ЦАЦКІ
СУСТРАКАЕМ ВЯСНУ РАЗАМ!!!
АБНАЎЛЕННЕ АСАРТЫМЕНТУ!!!
РАСПРОДАЖ!!! ЗНіЖКі ДА 20%!!!
вул. МАСКОЎСКАЯ, 20
Рэжым работы: 9.00 – 18.00
Субота 9.00 – 17.00
Нядзеля 9.00 – 16.00
тэл. 8-029-519-48-83
8-029-719-48-83
8-02156-5-44-51
ЗАКАЗ І ДАСТАЎКА НА ДОМ
ЗАПРАШАЕМ ЗА ПАКУПКАМІ!
ІП Ляўшыцкі С.І. УНП 391053881

ISSN 2077-8023




Рэклама ў газеце «ВГ», мтс 8(029) 813-99-99

Бурение миниэкскаватор
УНП 391530130 ЧТУП "РидаИР"
отверстий под сваи, столбы, опоры, деревья, забор, фундаменты
глубина бурения до 2,5 м.
тел.: 29 637-34-46; 29 814-87-04; 29 596-94-71

Центр КОМПЬЮТЕРНЫХ УСЛУГ
г. Глубокое
✓ Ремонт компьютеров, ноутбуков, мониторов
✓ Чистка системных блоков и ноутбуков
✓ Установка и настройка ОС Windows
✓ Настройка сети Интернет, WiFi
✓ Установка антивирусного ПО
✓ Восстановление информации
✓ Обслуживание организаций и офисов
Скидки ЕСТЬ!
САМЫЕ НИЗКИЕ ЦЕНЫ В ГОРОДЕ!!!
ВЫЕЗД И ДИАГНОСТИКА БЕСПЛАТНО!!!
УНП 391534626
МТС (033) 372-37-37 Life (025) 537-71-34

ЧТУП "Тайдик плюс"+375 29 214-34-55 (мтс).
АКЦИЯ !!! ПЛИТКА – ПО ЦЕНАМ МИНСКА!
НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ +светильники, люстры
Жидкие обои. Камень. Ламинат. Линолеум. ПВХ. МДФ.
Плитка – расчёт, дизайн-проект, доставка.
Двери. Сайдинг. Кровля. Фасад. Благоустройство и другое...
Работаем с кредитами на реконструкцию и строительство.
Рассрочка платежа. Распродажа обоев.
Глубокое, ул. Гагарина, 4 рынок "Верас" УНП 391057606

МОЛОДЕЧНЕНСКИЕ ОКНА ПВХ
Тел. 8(029) 641-62-94(Velcom)
8(029) 857-35-43 (МТС)
ООО «РЕКОМПЛАСТ» г.Молодечно (УНН 690450197)

ВОКНЫ, ДЗВЕРЫ ПВХ
Рамы балконныя
Дзверы ўваходныя і міжпакаёвыя
Абаронныя ралеты
Гаражныя вароты
Бясплатная дастаўка па гораду, растэрміноўка плацяжу, гарантыя якасці, гнуткая сістэма зніжак
мтс: (029) 716-28-26
(029) 821-32-52
м-н «Крышталь», вул. Леніна, 114-а
ІП Раманчук Д.С.; УНП 300018852

Магазин БЕГЕМОТ, г. Глубокое, ул. Ленина, д. 87, 1 этаж
* ОКНА и ДВЕРИ
от дешевых до элитных
*окна и двери ПВХ
*тёплые откосы в день монтажа!
*рамы балконные, москитные сетки
*двери металлические в наличии
*двери межкомнатные в наличии и под заказ
*жалюзи горизонтальные и вертикальные
* КУХНИ и ШКАФЫ-КУПЕ
по индивидуальным размерам
замер, доставка, установка
доставка по городу - БЕСПЛАТНО
работаем с кредитами на реконструкцию и строительства жилья
отличное качество! низкие цены!
МТС: (029) 518-62-35

Сервисный центр газовых котлов
10 лет заботы о Вашем тепле
УНП 391051529
ООО «ИТМЛ-групп»
Весенняя Распродажа!!!
Bosch Gaz 6000 WBN 18 C 18кВт, 2 т/обм-ка, ~~1300~~ р 1200 р
Bosch Gaz 6000 WBN 24 C 24кВт, 2 т/обм-ка, ~~1370~~ р 1290 р
Ferroli Diva F 24, (турбо) 24кВт, 2 т/обм-ка ~~1245~~ р 1140 р
Ferroli Domina F 24N, 24кВт,битермика ~~1135~~ р 1045 р
Viessmann Vitopend 100, 23 кВт, 2 т/обм-ка ~~1620~~ р 1495 р
Дымоход в Подарок!!! Договор на ТО! Доставка!
АКЦИЯ!!! При покупке котла до 31.05.17
Пусконаладка – бесплатно!!!
Электроводонагревател Ferroli E-Glass 80VS 80 л ~~220~~р 190р
Котлы для БАНИ и Сауны от 300 р, Твердотопливные котлы от 1500р
8-029-710-00-70 ☎ 2-85-64
г. Глубокое, ул. Красноармейская 78а,
Рассрочка!
Ferroli VIESSMANN BOSCH ТЕПЛОДАР ОРОР

УНП 300487848
на ул. Чапаева, 40 – в Глубоком
АВТОМОЙКА
С 1 мая – 10% скидки на услуги автомойки
мойка – 10 руб.
пылесос – 4 руб.
ковры 1м² – 2, 50 руб.
мтс: 029 594-23-88

ЦЕМЕНТ В НАЛИЧИИ
САМЫЙ ДЕШЕВЫЙ В РЕГИОНЕ !
ПЦ 500-Д 0
ПЦ 500-Д20
окна ПВХ
Межкомнатные двери
Входные двери
Секционные ворота
Шкафы-купе
Жалюзи / Рольшторы
г.Глубокое, ул. Дзержинского 29а
8 (02156) 2-65-66
8 (029) 506-50-10 мтс.
8 (044) 511-50-10 вел.
ЧТУП "ОД строй" УНП 390506774
САМЫЕ ДЕШЁВЫЕ ДУШЕВЫЕ УГОЛКИ

Котлы отопления
(Комфорты и другие). Доставка.
Распродажа. Недорого.
На дровах, брикете, опилках
тел.: (029) 286-65-32 мтс; (029) 714-00-74 мтс
Возможен кредит
УНП 391050456

### Полацкі раён

## Свабоды шмат не бывае?

■ Станіслаў Раманчук.

**У сусветным рэйтынгу свабоды прэсы наша краіна рэгулярна ўваходзіць у катэгорыю самых несвабодных краін.**

Вось і сёлета Беларусь разам з Расіяй, Казахстанам і Турцыяй аднеслі да дзяржаў, дзе сітуацыя са СМІ складаная, хоць і адзначылі зрухі да лепшага ў асвятленні парламенцкіх выбараў. Тым не менш у аднаго з лідараў прадпрымальніцкага руху ў Полацкім раёне 53-гадовага Генадзя Бераснёва днямі ўзніклі нечаканыя непрыемнасці. Да яго позна вечарам прыйшлі прадстаўнікі Следчага камітэта і правялі вобшук. Падставай паслужыла заява ў праваахоўныя органы аднаго з навапалачан, што яго знаёмы абражае ў сацыяльных сетках кіраўніка дзяржавы. З ім Бераснёў за нешта пасварыўся, прадпрымальнікі абазвалі адзін другога "стукачамі", але па гэтым даносе пачалася праверка. У падазронага следчы па асабліва важных справах Руслан Лясовіч канфіскаваў планшэт, каб, верагодна, знайсці доказы ягонай віны па крымінальным артыкуле 368, які прадугледжвае санкцыі ад штрафу да пазбаўлення свабоды да 2-х гадоў за публічнае зневажанне Прэзідэнта Беларусі. Сам жа Генадзь не хавае, што ў сацыяльнай сетцы "Аднакласнікі" пакідаў "лайкі" пад запісамі ў матэрыялах, дзе крытыкуецца дзейнасць главы дзяржавы ў групе "Надоел нам этот Лукашенко". Навапалачанін прызнае, што пакідаў і шэраг сваіх каментарыяў, але ні пасады, ні прозвішча нязменнага беларускага лідара не называў і не меў ніякіх намераў яго зневажаць. Гэты артыкул дзеючага Крымінальнага кодэкса даволі спрэчны, бо за падобныя дзеянні супраць простых грамадзян прадугледжана спачатку адміністрацыйная адказнасць.

### Пастаўскі раён

## Радзеюць рады ветэранаў

■ Кастусь Александровіч

**Час няўмольны, і з кождым годам усё меней сярод нас застаецца жывых сведкаў грозных падзей мінулага. Кожны ветэран ІІ Сусветнай вайны імкнецца дажыць да светлых майскіх дзён, калі яны дачакаліся Дня Перамогі.**

Яшчэ летась, калі на Пастаўшчыне святкавалі 71-ю гадавіну вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў, у раёне пражывалі 32 ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Сёлета вясной, калі ў райцэнтры прайшлі ўрачыстасці з нагоды 30-годдзя ветэранскага руху, адзначалася, што ў жывых застаўся толькі 21 ветэран. Між тым, адсюль пайшлі на фронт і ў партызаны каля чатырох тысяч землякоў, з якіх звыш 3-х тысяч былі ўзнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі. На жаль, неўзабаве лічаныя дні не дажыў да 9 мая адзін з самых актыўных ветэранаў, капітан 3-га рангу ў адстаўцы пастаўчанін Мікалай Зубовіч. Ён памёр на 93-м годзе жыцця, а ў маладосці зведаў штодзённыя артылерыйскія абстрэлы, бамбёжкі, голад і холад. Ягоная сям'я ў пачатку вайны паспела эвакуіравацца ў тыл у расійскую глыбінку, але 17-гадовы юнак пайшоў добраахвотнікам і патрапіў на Балтыйскі флот. Служыў і ваяваў на крэйсеры "Максім Горкі". Мікалай Яўстаф'евіч стаў сведкам блакады Ленінграда і вызвалення горада і Карэльскага перашыйка ад ворага. Пра гады сваёй баявой маладосці часта расказваў моладзі і вучням, пісаў у райгазеце, выступаў па радыё і тэлебачанні. Здавалася яшчэ доўга гэты жвавы і актыўны пажылы мужчына ў прыгожай форме марскога афіцэра будзе ў добрай жыццёвай форме, але лёс распарадзіўся іначай. Балюча, што ў мінулым годзе на галоўную плошчу горада прыйшлі толькі 6 ветэранаў мінулай вайны на чале з Зубовічам і вось іх засталося яшчэ меней…

### Аршанскі раён

## Паслядоўнікі Астапа Бэндэра

■ Чэслаў Якубовіч.

**Ва ўсе часы хапала па свеце розных махляроў, а ў нашы дні такія "дзеячы" ўсё часцей імкнуцца зарабіць лёгкія грошы ў сферы высокіх тэхналогій.**

З гэтай нагоды на працягу амаль паўгода ў Аршанскім судзе працягваўся працэс над арганізаванай злачыннай групай. Слуханні па гучнай справе ішлі так доўга, бо па ёй праходзіла больш сотні пацярпелых з розных куткоў Беларусі. Галоўным кібермахляромстаў28-гадовы аршанец Ян Маршалаў, які да арышту вучыўся ў БАТУ. Ён прыдумаў стварыць шкодную камп'ютарную праграму, з дапамогай якой група з чатырох маладых хлопцаў стала патрабаваць грошы ў даверлівых суайчыннікаў за прагляд у Інтэрнэце ролікаў сексуальнага характару. У пэўны час зламыснікі бачылі, хто з карыстальнікаў заходзіў на эратычны сайт, і з дапамогай спецыяльнага віруса блакавалі карцінку з пышнымі дамамі. Затым на маніторы ўсплывала пагроза ад імя нібыта МУС альбо КДБ, што чалавек заняўся незаконным праглядам парнаграфічных матэрыялаў і за гэта неабходна заплаціць штраф. І што самае дзіўнае, каб камп'ютар далей не "завісаў", махлярам пераводзілі грошы ў суме каля паўмільёна старых рублёў жыхары як сталіцы і абласных цэнтраў, так і з малых пасёлкаў і нават вёсак. Усяго за паўгода злачынная група змагла зарабіць кругленькую суму ў памеры амаль 33 тысяч долараў. Аднак яны не ўлічылі, што і ў праваахоўных органах есць таксама спецыялісты па раскрыцці ІТ-афер. У выніку суд пакараў галоўнага фігуранта і бліжэй–шага паплечніка 8 і 8,5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці, яшчэ двух удзельнікаў групоўкі адпра–вілі на "хімію" на 3 гады кожнага.

# Аб самым надзёным

## ЯК БЫ ГЭТА НЕ РАЗДРАЖНЯЛА КРЭМЛЬ, АЛЕ БЕЛАРУСЬ ПРАДОЎЖЫЦЬ АКТЫЎНА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ І З "БАНДЭРАЎСКІМ РЭЖЫМАМ"



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Наша краіна апошнім часам, па розных ацэнках, страціла ад 3 да 5 млрд. долараў у гандлі з Украінай і ад гэтага нашы народы жыць лепей не сталі. Аднак сёлета, на шчасце, гэты тавараабарот расце і ў студзені-лютым вырас нават на 40 %.**

Напрыканцы красавіка кіраўнік нашай дзяржавы зноў выйшаў на трыбуну і звярнуўся са штогадовым Пасланнем да народа Беларусі і Нацыянальнага сходу. Па меркаванні большасці даследчыкаў палітолагаў, у гэтым выступленні не прагучала нічога новага, практычна ранейшыя знаёмыя тэзісы. Праўда, А. Лукашэнка ўсё ж прызнаў, што "мы находимся у опаснейшей черты" крызісу ў эканоміцы, але не стаў канкрэтызаваць, хто ж у гэтым вінаваты. Насцярожыла, што было заяўлена аб непрыняцці ліберальных рэформ па рэцэптах МВФ. Прэзідэнт паабяцаў толькі ўзмацніць жорсткі жым на падначаленых, кантроль за цэнамі, зноў агучыў задачу дабіцца зарплаты ў 1000 рублёў і прымусіць працаваць 350 тысяч беспрацоўных.

Характэрна, што пра пасля папрокаў Захаду з вуснаў беларускага лідара не так і шмат гаварылася пра далейшае ўзаемадзеянне з Расіяй, не выключыў прамоўца і верагоднасць узнікнення новых супярэчнасцей з усходнім суседам. Значна больш цёпла было сказана ім пра развіццё плённых цесных партнёрскіх сувязей з Кітаем. Гаварылася таксама і аб шматвектарнасці айчыннай знешняй палітыкі, а яшчэ праз некалькі дзён беларускі лідар пацвердзіў гэта на практыцы. Разам са сваім украінскім калегам П. Парашэнка ён прыняў удзел у сумесных мерапрыемствах, прымеркаваных да чарговай 31-й гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Як і належыла чакаць, гэта паездка А. Лукашэнкі выклікала ў цэлым негатыўную рэакцыю ў маскоўскіх кабінетах улады, а афіцыйныя расійскія СМІ пра гэта пастараліся прамаўчаць. Найбольш жа абурыла беларусафобаў на расійскіх прасторах, калі ўкраінскі лідар "незалежнай", "радыёактыўны" па вызначэнні тэлеканала "Звезда" Міністэрства абароны РФ, Пятро Аляксеевіч Парашэнка заявіў у Чарнобылі, што нікому і ніколі не ўдасца ўцягнуць Беларусь у вайну супраць Украіны, а ўкраінска-беларуская граніца ёсць і заўсёды будзе граніцай сяброўства, добрасуседства, надзейнага партнёрства і граніцай міру.

Зусім не такой з'яўляецца, на жаль, зараз украінска-расійская граніца на ўсходнім накірунку, асабліва на Данбасе. А расійскіх шавіністаў яшчэ больш узрушыла, што многія беларусы па-ранейшаму лічаць суседнюю Украіну "братэрскай краінай" і гатовы паставіць "бандэраўскаму рэжыму", як часта абзываюць украінскі ўрад, ужо і гуманітарную дапамогу людзям, якія пражываюць па абодва бакі канфлікту. Яшчэ раней моцна крыўдзіліся ў Крамлі, што афіцыйны Мінск так і не прызнаў Крым часткай Расіі, шмат пастаўляў салярку ўкраінскім танкам у Данбасе і беларускіх МАЗаў для перавозкі там "карнікаў" і што беларускія ваенныя спецыялісты, нягледзячы на членства ў АДКБ, цесна супрацоўнічаюць з украінскімі калегамі ў сумесных ваенных распрацоўках.

Як вядома, востры канфлікт паміж рускімі і ўкраінцамі працягваецца пасля падзей у Крыме і на Данбасе з 2014 года, Крэмль паслядоўна адмаўляе свой удзел паблізу Данецка і Луганска ва ўзброеных сутычках. Зараз жа Крэмль яшчэ болей устрывожыла, што ненавіснае ўкраінскае кіраўніцтва гатова тэхнічна заблакіраваць тэлерадыёвяшчанне сепаратыстаў "ДНР" і "ЛНР", а таксама расійскіх каналаў у зоне правядзення сілавой аперацыі АТА. Напрыканцы сакавіка ў Херсонскай вобласці ўкраінцы адкрылі тэлевежу, якая можа перадаваць тэлесігнал на ўвесь Крым. Нарэшце падзеі разгортваюцца так, што пасля гібелі амерыканскага медыка з місіі АБСЕ ў Данбасе яшчэ больш верагодным стала ўвядзенне туды міратворцаў пад сцягам ААН.

Верагодна, аб гэтым і аб многім іншым маглі гаварыць лідары Украіны і Беларусі ў рэзідэнцыі апошняга "Лясковічы" ў фармаце адзін на адзін. Безумоўна, хутчэйшае спыненне супрацьстаяння ў Данбасе ў інтарэсах беларусаў. Наша краіна апошнім часам, па розных ацэнках, страціла ад 3 да 5 млрд. долараў у гандлі з Украінай і ад гэтага нашы народы жыць лепей не сталі. Аднак сёлета, на шчасце, гэты тавараабарот расце і ў студзені-лютым вырас нават на 40 %. Хай гэта рускім адыёзным дзеячам не падабаецца, але радуе, што А. Лукашэнка з П. Парашэнка дамовіліся аб пашырэнні доступу на свае рынкі, як украінскіх, так і адпаведна беларускіх тавараў і паслуг.

У рэзідэнцыі беларускага лідара бакі дамовіліся, што мы павялічым пастаўкі ўкраінцам сельскагаспадарчай тэхнікі, угнаенняў, будматэрыялаў і іншай прадукцыі, паўдзельнічаем у будаўніцтве ўкраінскіх дарог, а суседзі паставяць нам тавары, якія нас цікавяць. Павялічыцца сумесная вытворчая кааперацыя, могуць быць створаны сумесныя прадпрыемствы ў розных сферах эканомікі. Летам у Кіеве пройдзе чарговая сустрэча кіраўнікоў суседніх краін і ў цяперашні няпросты для эканомікі час – гэта таксама ў інтарэсах двух братніх народаў, як бы гэта не турбавала расійскія спецслужбы і крамлёўскую прапаганду.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 11.05.17 | | | | Пятніца 12.05.17 | | | | Субота 13.05.17 | | | | Нядзеля 14.05.17 | | | | Пн.15.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +8 | +6 | +1 | +6 | +10 | +7 | +3 | +7 | +12 | +8 | +4 | +8 | +14 | +10 | +5 | +11 | +15 |
| Ціск | 741 | 741 | 742 | 744 | 745 | 747 | 747 | 747 | 749 | 750 | 751 | 752 | 754 | 755 | 756 | 755 | 755 | 756 | 755 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 5 Пн-У | 2 Пн-З | 2 Пд | 3 Пд | 1 Пд | 0 ШТЛ | 1 У | 1 У | 4 Пн-У | 4 Пн-У | 3 Пн-У | 4 У | 4 У | 2 У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 1 Пд | 3 Пн-З |
| Вільготнасць | 80 | 81 | 44 | 72 | 78 | 65 | 38 | 61 | 78 | 63 | 39 | 45 | 65 | 52 | 41 | 65 | 82 | 65 | 43 |

## Дзень за днём

**МУС Беларусі паабяцала за 2-3 гады стварыць адну дзяжурную службу па кантролі грамадскай бяспекі. Даўгі беларусаў па аплаце паслуг ЖКГ перавысілі 119 млн. рублёў. Поўнасцю аплочваць камуналку ў Беларусі пачнуць праз 4-5 гадоў. Напрыканцы 2018 года даставяць першае паліва для БелАЭС. А. Лукашэнка загадаў зноў прымусіць 350 тысяч "тунеядцев" працаваць. У Беларусі выпусцілі першую партыю каўбасы з мяса бабра. З сейфа будынка МУС яго супрацоўнік скраў 270 тыс. USD. Толькі трэць студэнтаў (27 тысяч), што паступяць у ВНУ, будуць вучыцца бясплатна. Футбольным хуліганам могуць забараніць у Беларусі ўваход на стадыёны.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. З-за рознагалоссяў паміж Расіяй і ЗША Савет бяспекі ААН не змог прыняць рэзалюцыю з асуджэннем праводзімых КНДР выпрабаванняў запускаў ракет.

**КНДР.** Цэнтральная газета правячай кампартыі "Надон Сінмун" прыгразіла пераўтварыць тэрыторыю ЗША ў попел супермагутным прэвентыўным ракетным ударам.

**Англія.** Прэзідэнт Украіны П. Парашэнка зноў заклікаў узмацніць ціск на Расію, бо ў Данбасе забілі сёлета 69 і паранілі 420 украінскіх ваенных, там больш 300 танкаў РФ.

**Венесуэла.** Ноччу падчас штурму булачнай у сталіцы Каракасе загінулі яшчэ 12 чалавек, 6 паранілі, пачасціліся сутычкі на акцыях пратэсту абураных галечай людзей з паліцыяй.

**Бельгія.** Савет ЕС зацвердзіў адмену з 15 чэрвеня адмену роўмінга на сувязь для ўсіх грамадзян Еўрасаюза, а таксама на тэрыторыі Ісландыі, Ліхтэнштэйна і Нарвегіі.

**ЗША.** Пентагон пачаў выпрабаванні зброі неверагоднай магутнасці - кінетычных боегаловак з вальфрама, яны знішчаць практычна любыя аб'екты на хуткасці 3840 км/г.

**Украіна.** Сакратар Савета нацбяспекі і абароны А. Турчынаў заявіў, што Расія ўздоўж украінскай граніцы размясціла 50 тысяч ваенных, у Данбасе – два корпусы да 30 тысяч.

**Францыя.** Услед за Аўстрыяй намеснік главы Еўрапарламента А. Ламбсдорф заклікаў пасля турэцкага рэферэндуму спыніць перамовы аб уступленні Турцыі ў ЕС.

**Туркменістан.** Улады краіны папрасілі Беларусь пабудаваць за 1,4 млрд. долараў яшчэ адзін Карабільскі горнаабагачальны калійны камбінат па суседстве з Гарлыкскім.

**Англія.** На прэзентацыі сваёй кнігі "Шчаслівая Расія" Б. Акунін прызнаўся, што яго турбуе перспектыва там сацыяльнага калапсу, калі ў карумпаванай РФ скончацца грошы.

**Іспанія.** Найстарэйшай жыхаркай Еўропы стала 115-гадовая жыхарка горада Кардова Ана Вела, яна любіць есці мяса, рыбу і гародніну, выпіць паўбакала паўсалодкага віна.

**Расія.** Інфармагенцтва "Росбалт" паведаміла, што пасля перамоў у Піцеры візіт Папы Рымскага ў Мінск пад вялікім пытаннем, бо катэгарычна супраць гэтага выступае РПЦ.

**Украіна.** На сцяне грэкакаталіцкага храма св. Іасафата ў Львоўскай вобласці намалявалі фрэску з главой Расіі У. Пуціным, які гарыць у пекле на Страшным судзе.

**Расія.** Экс-глава Саюза журналістаў РФ І. Якавенка паведаміў, што Крэмль, рыхтуючыся да выбараў, вырашыў прыбраць адзіны аб'ектыўны медыяхолдынг РБК, які "распусціўся".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Нават калі эканоміка намацала дно падзення, як заявіў эксперт В. Іасуб, гэтага яшчэ мала, бо каб вярнуцца на ўзровень 2014 года, неабходна прыбавіць 7 % росту ВУП.

**Петрыкаў.** Пасля сумеснага наведвання Чарнобыльскай АЭС главы Беларусі і Украіны правялі сустрэчу ў рэзідэнцыі "Ляскавічы", абмеркавалі шмат пытанняў супрацоўніцтва.

**Астравец.** На другі энергаблок БелАЭС, як пацвердзіў намеснік міністра энергетыкі М. Міхадзюк, Расія паставіць корпус рэактара, які прызначаўся для Балтыйскай АЭС.

**Мінск.** Нічога новага ў пасланні прэзідэнта народу і парламенту-2017, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, мы не пачулі, улада спадзяецца падняць эканоміку за кошт "жыму".

**Смалявічы.** Кампанія матораў з Кітая Weichai Power замест інвестыцый у індустрыяльны парк "Вялікі камень" вырашыла стварыць СП з расійскім КамАЗам.

**Брэст.** За год летась чысты прыбытак вядомай рыбнай кампаніі А. Машэнскага "Санта Брэмар" вырас у 34 разы і дасягнуў 5,6 млн. рублёў, у панчошнай фабрыкі – 8,8 млн.

**Курапаты.** Палітолаг В. Карбалевіч папярэдзіў, што на нашых вачах адбываецца падмена, прынцыпова змяняецца змест мемарыялу, каб размыць, разбавіць злачынствы сталінізму.

**Гродна.** З бальніц Лодзі і Варшавы выпісалі 8 гродзенцаў з траўмамі і парэзамі, якія пацярпелі ў аварыі аўтобуса маркі EOS на аўтатрасе А2 у накірунку польскай сталіцы.

**Гомель.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч заявіла, што мы раней маглі больш супрацьстаяць бядзе Чарнобыля, а так пакінулі яе будучым пакаленням, не цэнім жыццё.

**Магілёў.** Падманным шляхам 43-гадовая гараджанка прадстаўлялася палкоўнікам міліцыі, адзявала форму і завалодала звыш 400 тыс. долараў, махлярку затрымалі падчас "здзелкі".

**Мінск**. Эксперт па СНД, прафесар з Канады Д. Марплз заявіў, што шакіраваны многімі зменамі ў Беларусі, тут адчуваеш сябе як у Варшаве ці Празе, зніжаецца расійскі ўплыў.

**Тураў.** Вучоныя-арнітолагі НАН Беларусі зафіксавалі на мясцовым лузе рэкордную міграцыю ў Еўропе 120 тысяч рэдкіх птушак-турухтанаў з Чырвонай кнігі Беларусі.

**Гомель.** За забойства сельскай настаўніцы суд пакараў 18-гадовага жыхара вёскі Шарпілаўка У. Юрчанку 10 гадамі і 1 месяцам папраўчай калоніі агульнага рэжыму.

**Магілёў.** З-за падпалу вечарам сухой травы ўзнік пажар на пляцоўцы захоўвання старых шын, з агнём на плошчы 800 кв. м змагаліся 14 пажарных разлікаў і пажарны поезд.

**Мінск.** Былы І-ы віцэ-прэзідэнт НАК М. Рыжанкоў назваў 16 відаў спорту, якія ўключаць у праграму ІІ Еўрапейскіх гульняў 2019 года, папулярных гульнявых відаў не будзе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** З НПЗ "Нафтан" летась звольнілі найбольш у краіне 722 работнікаў, штат завода-гіганта зменшыўся яшчэ на 6,7 % і дасягнуў 10008 працуючых.

**Бешанковічы.** Падчас візіту прэм'ер-міністр Славакіі Р. Фіцо абмеркаваў з кіраўніцтвам вобласці пытанні ўзвядзення мясцовай ГЭС з аб'ёмам інвестыцый 130 млн. долараў.

**Глыбокае**. На ІІІ Міжнароднай выставе прадуктаў харчавання Food Africa ў Каіры Глыбоцкі МКК дамовіўся аб пастаўках прадукцыі ў Егіпет і стварэнні там СП.

**Віцебск.** У лік самых праблемных калектываў краіны зноў увайшоў са стратамі 1,4 млн. рублёў па выніках года "Віцебскаблаўтатранс", у ім працуе 4210 рабочых і служачых.

**Орша.** А. Лукашэнка даручыў членам урада ўзняць "з руін і пепла" горад, суседнія Барань, Балбасава і не толькі таму, што там ён нарадзіўся, бо ў рэгіёне цяжка з працай.

**Гарадок.** Самай распаўсюджанай у раёне вакансіяй стала часовая праца да лета зборшчыка камянёў, якіх патрабавалася 75 чалавек, усяго ж налічвалася 305 вакансій.

**Віцебск.** Кіраўніцтва вобласці вырашыла накіраваць 400 тыс. рублей, зароблены на суботніку, на абнаўленне двух мемарыяльных комплексаў "Прарыў" і "Рыленкі".

**Глыбокае.** Упершыню ў райцэнтры 5 кастрычніка 2004 года А. Лукашэнка паабяцаў краіне выйсці на заробкі 500 $, слова стрымаў, але ўжо тройчы іх "з'ела" дэвальвацыя.

**Лужасна.** Віцебскіх рыбакоў устрывожыла, што ў раёне пасёлка ў вадзе Заходняй Дзвіны з'явілася масляністая плёнка і адчуваўся рэзкі пах дызельнага паліва.

**Віцебск.** Па цэнтры горада прагуляўся раніцай лось, які прыплыў па Заходняй Дзвіне, выйшаў з вады, але да людзей блізка не падыходзіў і спрабаваў выйсці вярнуцца ў лес.

**Докшыцы.** Пад раніцу ў выніку пажару ў вёсцы Парэчча ў доме загінулі яго гаспадыня і два сыны ва ўзросце 54 і 47 гадоў, агонь знішчыў дах, столь, маёмасць, пашкодзіў сцены.

**Паставы.** Падушкі бяспекі выратавалі ад гібелі 34-гадовага жыхара райцэнтра, які вечарам на вялікай хуткасці зляцеў на аўто з дарогі ў кювет і ўрэзаўся ў дрэва.

**Гарадок.** У СШ № 2 райцэнтра з удзелам старшыні абласавета дэпутатаў У. Цярэнц'ева ўрачыста адкрылі этнаграфічны музей пра жыццё, традыцыі і культуру нашых продкаў.

**Мёры.** Настаўнік гісторыі СШ № 3, краязнаўца і кіраўнік клуба "Арганаўты мінулага" В. Ермалёнак напісаў і надрукаваў новую кнігу "Чароўных вандровак пярсцёнкі".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ці спадабаўся глыбачанам і гасцям горада дударскі фэст?

**З такім пытаннем мы звярнуліся да глыбачан і гасцей горада падчас другога дня дударскага фэсту ў Глыбокім. Нагадаем чытачам, што Першы фэст дударскіх рэгіёнаў «Дударскі рэй – 2017» прайшоў у Глыбокім 6–7 траўня.**

**■ Зміцер Лупач, Леанід Юрык**



**Вадзім Шышко, Паставы:**

– Я і бацьку свайму казаў, што не паеду на гэты фэст толькі тады, калі вайна пачнецца. Бо як даведаўся, што такое будзе ў Глыбокім, то ўсе свае планы за тыдзень памяняў. Я мару, каб такое зрабілі ў Паставах. Бо ў нас ёсць свой фестываль, але ён стаў ужо дужа афіцыйным. А патрэбна штосьці новае, нязбітае. Калі Глыбокае здолее гэты фэст захаваць, то рэспект Глыбокаму.



**Марыя Хітрук, в. Празарокі:**

– Я люблю прыязджаць у Глыбокае, калі такія вялікія святы праходзяць. На такіх святах мы атрымліваем на цэлы год добры настой. Вось глянце на твары людзей, усе ўсміхаюцца, вочы блішчаць. Наша музыка беларуская, нашы песні проста западаюць у душу. Проста хочацца жыць і радавацца жыццю.



**Віктар Дудкевіч, Глыбокае:**

– Вельмі добра, што знайшоўся чалавек, які арганізаваў такі фэст дударскі. Гэта падымае нашу культуру ўжо на міжнародны ўзровень. Бо дуда адыгрывала важную ролю ў жыцці беларусаў. Трэба адраджаць гэту традыцыю.



**Алёна Дабравольская, Глыбокае:**

– Вельмі прыемнае свята, вельмі яго чакалі, шмат рэкламы бачылі ў Інтэрнэце. Таму было цікава паглядзець, як гэта ўсё выглядае. Бо дуду ў нас яшчэ мала дзе пачуеш. Я хачу, каб гэта свята было ў нас і надалей. Гэта развівае і нас, і нашых дзяцей. Гэта наша спадчына, пра якую заўсёды трэба памятаць.



**Яраслаў Берніковіч, Глыбокае:**

– Вельмі цудоўны фэст атрымаўся. І ўсё дзякуючы аднаму чалавеку – Віталю Воранаву. Ён знайшоў паразуменне з нашымі ўладамі, запрасіў гасцей, і вельмі ўсё прыгожа атрымалася. Кажуць, што адзін у полі не воін. Як аказваецца, воін.



**Яўген Леўшын, Паставы:**

– Я не шкадую, што прыехаў. Усё цудоўна, жывы гук, шатландцы, чэхі... Я люблю вельмі дуду, наогул, музыку народную. Я нават не магу растлумачыць, адкуль у мяне гэта цікавасць. Я – беларус, і гэтым усё сказана. Вось і да дуды прыйшла цікавасць. Я думаю, што мы ўсе рана ці позна прыйдзем да свайго нацыянальнага.

# Глыбоцкія журналісты добраўпарадкавалі магілу Тарквінія Буйніцкага – бацькі заснавальніка беларускага тэатра

■ Уладзімір Скрабатун

**Вёска Вострава — не тое, што востраў пасярод ракі ці возера, але востраў у нетрах Галубіцкай пушчы. Вольнае ад лесу месца. Востраў. Тут некалі быў адзін з маёнткаў роду Буйніцкіх, ад якога сёння засталіся хіба рэшткі парка. На мясцовых могілках пахаваны ўладальнік маёнтка Тарквіній -Тэафіл Зыгфрыдаў-Гіяцынтаў Буйніцкі (1824-1896). Так, гэта бацька Ігната Тарквіньевіча Буйніцкага, заснавальніка беларускага прафесійнага тэатра.**

Некалькі разоў, штовесну, нашыя глыбоцкія журналісты парываліся прыехаць у Вострава і прывесці ў належны стан магілу Тарквінія Буйніцкага, зладзіць талаку. Ды ўсё неяк не складвалася, то ў апошні момант кіроўца вырашыў не рызыкаваць, бо тэхагляд не прайшоў, іншым разам — непагадзь, а вось у мінулую пятніцу ўсё склалася нарэшце на выдатна!

Маці Ігната Буйніцкага — Клатыльда з Гласкаў — памерла досыць рана. Тарквіній Буйніцкі адышоў у лепшы свет у 1896 годзе. Праўдападобна, праз год ці крыху пазней быў пастаўлены помнік — вялікі гранітны крыж, выдатнай работы. Яго другая жонка, Вера Буйніцкая (з Янковічаў), памерла ў 1920 годзе і пахаваная побач. Імя Тарквінія Буйніцкага на помніку выгравіравана ідэальна, нібы надпіс, кажучы сучаснай мовай, зроблены плотарам. То бок яго рабілі ў майстэрні ў гарызантальным становішчы. А вось імя Веры Буйніцкай ужо дапісвалі па месцы пахавання, майстру цяпер было цяжкавата рабіць надпіс у вертыкальным становішчы, таму і літары не ідэальныя. Дзесьці яны крыху “завальваюцца”.



**Магілу Буйніцкіх можна было знайсці толькі выпадкова ці, калі яе шукаць мэтанакіравана, ведаючы, што яна тут ёсць.**



**Талака глыбоцкіх журналістаў па добраўпарадкаванні магілы Тарквінія і Веры Буйніцкіх.**



**Рэшкі парка ў колішнім маёнтку ў Востраве. Гэтыя старыя ліпы памятаюць Буйніцкіх.**

Праўда, гэта заўважна, калі ўжо дужа прыдзірліва ўглядацца ў надпісы.

Магілу Тарквінія і Веры Буйніцкіх падчас навуковай экспедыцыі адшукалі 27 жніўня 2013 года Алег Куржалаў, Ігар Куржалаў і Вольга Гінько, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, якая шмат зрабіла для стварэння музея Ігната Буйніцкага пры Празароцкай СШ.

Пахаванне Буйніцкіх знаходзіцца ў старой частцы вострраўскіх могілак. Таму гэтая частка могілак, у адрозненне ад пахаванняў апошніх дзесяцігоддзяў, знаходзіцца ў запушчаным стане. Сярод векавых соснаў у два абдымы — надмагільныя помнікі, руіны каплічкі — у густым «падлеску» з заснаснікаў celкаў рознага кустоўя, якое ў некаторых месцах амаль непраходнае яшчэ і з-за буралому і складанасцяў рэльефу (ямы, яры).

Нам пашанцавала, што на гэтым 10-метровым адрэзку — ад помніка да галоўнай дарожкі праз могілкі — не патрапілі вялікія дрэвы, а толькі густое кустоўе. Для 5 чалавек той працы было гадзіны на паўтары. Шкадавалі, што не здагадаліся ўзяць з сабой шматгадовых кветак і пасадзіць ля помніка. Пасадзілі пралескі.

У нас, на месцы працы ўзнікла дыскусія: «Чаму ва ўсіх даведніках імя па бацьку ў Ігната Буйніцкага — Цярэнцьевіч, калі ён сам, уласнаручна, падпісваўся — Тарквіньевіч?» Аўтар прапанаваў сваю версію.

Ёсць сярод каталічак такія папулярныя жаночыя імёны Яніна і Ядзвіга. Для Беларусі — абсалютна прымальныя. Варта якой Яніне ці Ядзвізе выйсці замуж, ды яшчэ за рускага, і паехаць жыць у Расею, то там пачынаюць цвяліць: Я — Ніна, Я — Дзвіга! Ну й, мяняюць дзеўкі імёны, была Яніна — стала Ніна. Нават у нас у Беларусі, асабліва ў заходняй палове краіны, ёсць такая дзіўная акалічнасць – чалавека па імені па бацьку ўсе навокал клічуць Віктаравічам ці Віталевічам. І раптам, на нейкай урачыстасці, чалавека запрашаюць на сцэну, каб уганараваць яго, напрыклад, граматай ці каштоўным падарункам, называюць яго сапраўднае імя па бацьку – Вітольдавіч.

Дзіўна! Людзі саромеюцца імя свайго бацькі! Нібыта адчуваюць на сабе віну, што ў іх “польскае” імя па бацьку. Ды не польскае яно! Князь Вітаўт (Вітольд) Вялікі быў кіраўніком Беларусі, то бок Вялікага княства Літоўскага. Жамойты (цяперашнія літоўцы) вунь аніяк не пераймаюцца, што ўкралі ў беларусаў: герб Пагоню, гісторыю, колішнюю назву Беларусі – Літва, а Вітаўта перакруцілі на Вітаўтаса, Альгерда – на Альгірдаса. Калі ўжо беларусы пазбавяцца комплексу непаўнавартасці.

Трупа Ігната Буйніцкага двойчы гастралявала ў Пецярбургу… Цярэнцьевіч больш прымальна для рускага вуха? Сцэнічны варыянт? Ці ўсё ж нашыя гісторыкі ў савецкія часы рашылі зрабіць «карэктыроўку», занадта «польскае і каталіцкае» імя па бацьку падагнаць пад «праваслаўнае» – Цярэнцьевіч. Тарквіній і Цярэнцій не роднасныя імёны, як, у адрозненне Вітаўт і Вітольд – раўназначныя, як і Тадэвуш і Фадзей.

Можа мая версія і выглядае абсурднай, але ж мусіць быць хоць нейкае і ўцямнае тлумачэнне! Бо гэтае пытанне ніколі не знікне і будзе задавацца заўсёды. Сам жа Ігнат Буйніцкі падпісваўся – Тарквіньевіч!



Геометрическій планъ Виленской губерніи, Дисненскаго уѣзда, Прозорокской волости на участокъ земли изъ имѣнія Прозороки дарственный Генераль-Маіоромъ Петромъ Петровичемъ Муринымъ въ количествѣ двухъ десятинъ на постройку Церкви и подъ усадьбу причта. Планъ составленъ по магнитному меридіану въ 1901 году Марта 22го дня Землемѣромъ Таксаторомъ Игнатіемъ Тарквиньевичемъ Буйницкимъ.

**Фрагмент тэксту, які напісаны ўласнаручна каморнікам (землямерам) Ігнатам Буйніцкім, дзе ён сам напісаў сваё імя па бацьку – Тарквіньевіч. Як вынікае з тэксту (і не толькі гэтага) – каталік І. Буйніцкі дапамог праваслаўным узвесці царкву ў Празароках.**




**Надпісы на помніку: Тарквіній Буйніцкі, п(амёр) у 1896 г. С.+П. Вера з Янковіч(аў) Буйніцкая, п(амерла) 1920 г.**

Уладзімір Скрабатун

# У Глыбокім прайшоў першы Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў "Дударскі рэй – 2017"

**Віталь Воранаў:**
**Сябры, нават не ведаю, з чаго пачаць справаздачу. Па інтэнсіўнасці працы гэта былі неверагодна складаныя для мяне дні, але без перабольшвання магу сказаць, што гэта былі, бадай, найшчаслівейшыя дні майго жыцця. Дзякуй усім, хто раздзяліў з намі гэтае свята дуды, усім цудоўным людзям, якія працавалі на тое, каб яно атрымалася.** Thank you to our foreign guests, Hlybokaje loves you! **Дударскі рэй!**

*facebook.com/vital.voranau*

Вельмі ўнікальны для Беларусі выпадак – глыбоцкія ўлады падтрымалі грамадскую ініцыятыву і самі актыўна спрычыніліся да яе рэалізацыі. Віталь Воранаў, колішні вучань Глыбоцкай СШ№2, а цяпер жыхар Познані (Польшча), выкладчык ірландскай літаратуры ва ўніверсітэце г. Брна (Чэхія), пісьменнік, перакладчык, музыка, прапанаваў правесці ў Глыбокім Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў – "Дударскі рэй –2017". Ён не толькі прапанаваў, але і сам актыўна спрычыніўся да яго арганізацыі. А каб гэта здзейснілася, трэба самому быць, перадусім, дударом, асабіста ведаць дудароў па Еўропе, самому ўдзельнічаць там у падобных фэстах, здабываючы досвед правядзення падобных мерапрыемстваў, напісаць кнігу аб гісторыі дударства на Глыбоччыне. І, у рэшце рэшт, мець самому арганізацыйныя здольнасці і натхненне, і натхніць іншых, выдатна валодаць беларускай, польскай, чэшскай, англійскай мовамі. Самае важнае, што глыбоцкія ўлады яму паверылі, а раз паверылі, то і з удзячнасцю падтрымалі. Трэба адзначыць, што дудары з Еўропы адгукнуліся на заклік Віталя Воранава, сказцелі самі прыехаць, нават сваім коштам, абы пабачыць Беларусь. А глыбоцкія ўлады забяспечылі замежных гасцей харчаваннем і пражываннем у гатэлях, выдаткавалі аўтобус для паездак па Глыбоччыне, правялі ўсю іншую вялікую арганізацыйную руціну.

На фэст, натуральна, прыехалі дудары з Беларусі, а таксама прадстаўнікі дударскіх рэгіёнаў: Вялікапольшчы (Польшча), Маравіі (Чэхія), Шатландыі (Вялікабрытанія), Карэліі (Расія), Бельгіі (Фландрыя, Валонія).

Фэст распачаўся 6 траўня з Алеі славутых землякоў. Прадстаўнікі дударскіх рэгіёнаў гралі свае мелодыі ля помніка Ігнату Буйніцкаму, заснавальніку прафесійнага беларускага тэатра, у трупе якога былі дудары. Затым адбыўся паход дудароў у Глыбоцкую раённую бібліятэку, дзе будзе дзейнічаць адзіная на Беларусі сталая экспазіцыя – "Дуда ў беларускай літаратуры". Тут таксама адбыўся імправізаваны канцэрт прадстаўнікоў дударскіх рэгіёнаў Еўропы. І новая экспазіцыя бібліятэкі ўжо атрымала першыя дарункі, якія звязаныя з тэматыкай дуды.

Затым дэлегацыя завітала ў Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей, дзе адкрылася выстава вялікапольскай дуды. У дворыку музея адбыўся, таксама імправізаваны канцэрт.

Пасля гэтага дударская дэлегацыя накіравалася ў Празарокі, да помніка на магіле Ігната Буйніцкага. Дудары наведалі музей Ігната Буйніцкага пры Празароцкай СШ, а ў актавай зале адбыўся канцэрт для настаўнікаў і вучняў. Празарокі вельмі ганарацца Ігнатам Буйніцкім, пра што тут не прамінулі нагадаць, як і пра тое, што 11 яе выпускнікоў сёння працуюць педагогамі ў роднай школе.

Пасля завяршэння першага дня фэсту яго ўдзельнікі накіраваліся на адпачынак у санаторна-курортны комплекс "Пліса".

Наступным днём, з раніцы, дударская дэлегацыя наведала касцёлы ў Мосары і Удзеле. Гучанне дуды вельмі адпавядае акустыцы храмаў, яна выдатна гучыць як адна, так і ў спалучэнні з арганам.

А 13-й гадзіне, у Глыбокім, распачалося ўрачыстае шэсце прадстаўнікоў дударскіх рэгіёнаў па вуліцы Леніна да Цэнтральнай плошчы, дзе была галоўная сцэна фэсту. У авангардзе калоны ішлі глыбоцкія барабаншчыцы, якімі так ганарыцца Глыбокае.

З прывітальным словам выступіў кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Моркхат. Дарэчы, многіх гасцей горада заўсёды прыемна ўражвае, што кіраўнік нашага раёна, на ўсіх культурніцкіх мерапрыемствах, выступае на выдатнай роднай мове!

Пасля гэтага адбыўся грандыёзны канцэрт усіх удзельнікаў фэсту дударскіх рэгіёнаў. Перыядычна, у перапынках перад выступамі дудароў, паказвала майстэрства і глыбоцкая мастацкая самадзейнасць. На дударскі фэст прыйшло досыць шмат глыбачанаў. Аўтар сустрэў і знаёмых з Віцебска, Мінска, Паставаў...

Усе ўдзельнікі фэсту па яго заканчэнні атрымалі з рук Галіны Унуковіч дыпломы і каштоўныя падарункі.

*– Гэта – самае лепшае, што хоць калісьці я бачыў у Глыбокім,*– падзяліўся сваімі ўражаннямі знаёмы жыхар Шаркоўшчынскага раёна, які гандлюе на нашым рынку мёдам. *– Вельмі ўразіла шэсце дудароў! Малайцы, Глыбокае!*

З апошнім узнагароджаным, а ім быў Віталь Воранаў, "Дударскі рэй – 2017" не скончыўся. Увечары адбылася сустрэча з выкладчыкамі і навучэнцамі Глыбоцкай дзіцячай школы мастацтваў (яна атрымала каштоўныя падарункі) і цудоўны канцэрт.

"Дударскі рэй – 2017" – выдатная падзея ў культурніцкім жыцці Глыбокага і Глыбоцкага раёна. Прэзентацыя нашага краю, наладжванне міжнародных стасункаў, якія, без сумневу, прынясуць некалі вялікі плён нам усім.


**Віталь Воранаў (справа) атрымлівае падзяку і каштоўныя падарункі за паспяховую арганіцыю фэсту "Дударскі рэй – 2017" ад Галіны Унуковіч, старшыні раённага савета дэпутатаў. У сваю чаргу сп. Віталь адзначыў, што без актыўнага спрыяння самой Галіны Уладзіміраўны, такое свята не магло б адбыцца.**


**Прадстаўнікі дударства Маравіі (Чэхія).**


**Урачыстае шэсце ўдзельнікаў дударскага фэсту на Цэнтральную плошчу да галоўнай сцэны фэсту "Дударскі рэй – 2017"**


**Шатландзец Ліндзі Дэвідсан, прафесар, кандыдат навук, даследчык гісторыі дуды, грае на адкрыцці сталай экспазіцыі "Дуда ў беларускай літаратуры" ў Глыбоцкай раённай бібліятэцы.**


**Зміцер Дзёмін, колішні выпускнік Глыбоцкай музычнай школы, прыехаў на "Дударскі рэй – 2017" за некалькі тысяч кіламетраў з Карэліі. Грае на эстонскай дудзе ля помніка свайму дзеду – паэту Алесю Дубровічу на Алеі славутых землякоў.**


**Прадстаўнічая дэлегацыя ўдзельнікаў Міжнароднага фэсту дударскіх рэгіёнаў завітала ў Празарокі, наведала школьны музей Ігната Буйніцкага. Адбыўся канцэрт у школьнай зале. На здымку: выступае дуэт беларускіх дудароў у суправаджэнні цымбалаў і бубна, так, як гэта было ў трупе І. Буйніцкага.**

